# Маланка
# 1926
# Паасобныя №№

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ АСОБНЫ НУМАР 40 ГРОШ.




Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Завальная вуліца, № 7**
Беларуская Кнігарня. «МАЛАНКА»

**№ 2**
**10 ЛЮТАГА**
**1926 г.**

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгоду 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „
За граніцу: на год—тры даляры, на паўгоду—1 д. і 50 цэнт.

**Эндэк:** — Нарэшце за сем гадоў нашага істнаваньня далі «ўдзячнаму насяленьню» нашу зямельную рэформу. А цяпер, браце пэпэсэ, дай пыска і пойдзем у скокі, бо аркестр даўно ўжо наладжаны,— хай бачаць беларускія сяляне, што мы і пра іх дбаем!

# „Зямельная рэформа“.

Зямелька, — Маці дарагая!
Нас як дзетак ўзгадавала,
Нас карміла, нас паіла,
Шанавала, даглядала!
    Мы, твае радныя дзеці,
    Песьні сумныя сьпявалі,
    Як твой вузенькі загончык
    Кроўю, потам палівалі.
Мы пялі гымны працы,
Мы пялі аб надзеі,
Што мінець пара ліхая
І загінуць ліхадзеі;
    Што табой, Зямелька — Маці
    Шахавалі, гандлявалі
    І за нашу цяжку працу
    Днём і ночай балявалі.
Мы цярпелі доўгі векі,
Ждалі мы якой віхуры,
Што адвечну крыўду нашу
Разнясуць вятры і буры.
    Сем гадоў твае сыночкі
    Клалі ўласныя галовы,
    Усьцілалі шлях трупамі,
    Ваюючы за Дзень Новы.
І казалі: ,,як вярнёмся
На загон свой мілы, родны,
Будзе там зямлі у волю
У Беларусі нашай роднай!“
— — — — — — — — — —
    Доўга нас за нос вадзілі,
    Абяцалі злоты горы,
    Абяцалі даць зямелькі,
    Як тае вады ў моры.
Доўга сойм, паны, міністры,
Нас рэформай пацяшалі
І, нарэшце, ах! нарэшце,
Сваё „цуда“ паказалі.
    Што зямля адным багатым,
    То уласнасьць іх сьвятая,
    А табе, бядняк — галота,
    Толькі доля праклятая!
І што толькі ад іх носу
Колькі крошак застанецца,
То табе, працоўны браце,
З ласкі панскай давядзецца.
    А па ўсім зямлі абшары,
    Дзе дзяды, бацькі гаралі,
    Запануюць новы людзі —
    „Познанякі і гуралі“.
— — — — — — — — — —
Дык „зямельная рэформа“
Гэта — крыўда твая, браце,
Твая рана незажыта,
Новы вораг ў тваей хаце!...

Я. М.

# „МАЛАНКА“.

Што на сьвеце і у сьвеце —
Гэта мне ўжо не абходзе —
Тое-ж знойдзеш у газэце,
Даражэнькі, мой народзе!

    Я „МАЛАНКА“ з чорнай хмары,
    Я дачушка Пярунова:
    Маё дзела — біць па твары...
    Раз за разам... зноў на нова.

Мяне выслаў Бацька з горы
На абшары Беларусі,
Каб спаліці загаворы,
Каб задаці сьмерць пакусе;

    І расчысьціць ніў загоны,
    Паказаць усе асоты,
    Заглушыць фальшывы тоны
    Й асьвятліць да дна брыдоты.

Сьмела я іду прад вочы
Падляцоў за грошы ўзятых:
Буду мучыць днём і ночай,
Мучыць буду іх заўзята.

    Я ня стрымана у лёце,
    Ланцугом мой крок ня скуты —
    Плюць я буду ў твар брыдоце
    І Народны рваці путы.

Я спалю „Часову Раду“,
Зьнішчу подлую „Прасьвету“
У зубы вугаль ткну я гаду,
Каб ня бачыць подласьць гэту.

    Каб ня чуць у нашым Краю,
    Здрады, подласьці і зьдзеку,
    І па добраму звычаю...
    Падаць руку чалавеку.

*Блазан.*



## Ст. Тугутт і Ст. Грабскі.

**Тугутт:**

Станіславе паважаны!
Вось і дзела мы зрабілі:
Беларусам правы даны...
А яны-ж цяпер завылі,
Што мы школ не адчынілі.
Што тут з імі нам рабіць,
Як тут жыці... ах, як жыці!?
Ані хвілечкі спачыць,
Нельга воч шчаміць ні крышкі...
Грабскі — перабівае:
— На Лукішкі... на Лукішкі.

*Блазан.*



# ЖАРТЫ.

## Песьня пра войта.

(*З народнага*)

Ехаў поштай новы войт,
На тую бяду
Praваліўся сярод ставу
На тонкім ляду.

Ішчуць солтыс і дзесяцкі,
Ішчуць стары рыбакі...
Цягнуць невад зпад-пад лёду
Вострыя гакі.

Скуль узяўся стары дзед
На той час — якраз,
Раскажэце, добры людзі,
Што такое ў вас?!

Утапіўся новы войт,
Госпадзі, прасьці!
Памажы нам, старча добры,
Невад зацягці!

Нашто вам цягці?
Нашто вам бяды?
Пакажэце „колькі злотых"
Выскачыць з вады!...

Пашукалі па кішэнях,
Знайшлі злотых пяць, —
Паглядзеце, добры людзі,
Ужо з вады відаць!

Пашукалі яшчэ лепей,
Знайшлі злотых шэсьць,
Паглядзеце, добры людзі,
Ужо і войт ёсьць.

С—Ч.

### Жывеце духам сьвятым!

Пытаецца малы Панас у бацькі:

— Татка, а татка, чаму гэта паны усё збожжа за граніцу вывозяць, а чым-жа мы будзем карміцца, як свайго ня стане?

— А ці-ж ня чуў, як ксёндз у касьцеле казаў: „прывыкайце, дзеткі, жыць духам сьвятым!.."

Сыч.

### Добра адказала.

Пякла маці бліны. Малое дзіця доўга пазірала дый кажа:

— Чаму гэта, мамка, нялоўкія бліны пячэш? Адзін вось не дагарэў, другі сыраваты, трэці бяз боку, а гэты саўсім сухі, як шкуранец, а той зусім недапечаны...

— Дзіўненькі, — адказывае матка. — У Польшчы міністраў яшчэ шыбчэй пякуць, як бліны, яны так сама выходзяць „недапечанымі", а аднак іх ніхто не бракуе.

Сыч.

### „Патрыёт".

— Андрэй, Андрэй! Як табе ня сорамна? У хаце хлеба а ні троху, дзеці галодныя, а ты гарэлку смокчаш!

— Не перашкаджай, баба! Я падтрымліваю скарб польскі, бо пью толькі гарэлку з наклейкай: „дзяржаўны сьпіртавы манаполь"

Янка М



### Не разумее

— Не разумею я сучасных людзей, — кажа сусед да суседа, — наракаюць, што ў нас блага жывецца, а як мне здаецца, дык у нас жывецца як у раю...

— Чаму, — перабівае сусед.

— Як, чаму? Чытаў жа ты, што ў раю ня трэба нічога рабіць, ні піць, ні есьці, — у Польшчы таксама, бо няма чаго.

Сыч.



### Праўдзівае здарэньне.

Павятовы стараста зьявіўся ў вёску Мігаўку і прыказаў солтысу даць яму падводу.

— Ня дам, — кажа солтыс, — калі ласка прынясіце загад з гміны.

— Як смееш са мной спрачацца: ты ведаеш хто я??—Я стараста В—ейскі!..

— А я солтыс Мігаўскі, — адказаў солтыс.

Кун.

### Успамін.

Яшчэ перад вайной праходзіў сялянін з жонкай каля памятніка Мураўёва ў Вільні, затрымаўся дый кажа:

— Паглядзі ты, Марыля, які гэта чорт стаіць?!

Пачуў гэта гарадавы і пацягнуў дзеда ў вучастак.

— Паночак, даражэнькі, — пусьціце яго, я-ж яму казала, каб на ўсякага балвана не заглядаўся, дадала баба і пачула, як сільная рука гарадавога схапіла яе „за каршэль", цягнучы разам з дзедам ў вучастак за абразу „высокае" асобы.



### Сарамлівая.

Зося: Янка, аб чым гэта ты думаеш?

Янка: Аб тым, аб чым і ты!

Зося: Фу, — як табе ня стыдна.

*Н.*



### „УТРАКВІСТЫЧНАЯ ШКОЛА".

#### На лекцыі арытмэтыкі.

Вучыцель: Ну а тэраз бэндземы одрабяць заданя на настэмпнон лекцыен.

Вучні (ў вадзін голас.): Пане вучыцель, пане вучыцель, нятрэба адрабляць, бо мы іх яшчэ не зрабілі.

#### На лекцыі географіі.

Вучыцель расказвае вучням аб Палесьсі і між іншым кажа, што там клімат нездаровы, пануе малярыя...

Вучні: Пане вучыцель, а як даўно там гэты пан „маляр" пануе.

Вучыцель: Вы, відочне, не розумеце, то не пан, не чловек, а фэбра.

Вучні (паміж сабою): Чуў, Янук, кажа, што гэта хфарба, гэта відаць там жоўтая, пры такім кліmаце, як іржа...

Вучыцель: Ну, Калядка, поведз мне цо ты слышалэсь о Полесю?

Калядка: Палесьсе, — гэта такая краіна, дзе...

Вучыцель (перабіваючы): Мув докладне й попольску...

Калядка: Палесьсе, мо й не дакладна польская краіна, але там надта ў кліmаце распаўсюджана хварба, якая...

Вучыцель (злуючыся): Дурэнь. Не фарба, а фэбра, то така хоробa... (зварочваючыся да вучня Лямешкі) ну, поведз мі, як у вас називаён хоробэн, ктура тшэнсе людзі.

Лемешка: У нас даўней гэтае хваробы ня было, ніхто нас ня трос, гэта цяпер амаль што ня кожную ноч трасе... але... паліцыя...

Вучыцель: Елоп, сядай. фэбра — то ест хороба, подчас ктурэй хоры чловек цалы сен тшэнсе, ему зімно бардзо...

Адзін з вучняў (з месца): Пане вучыцель! я ведаю па нашаму гэта яшчэ называецца трасцай.

Усе вучні: А-а-а! Так бы й казаў! трасца, то праўда, што хвароба, але яна ня так часта трасець, як цяпер.. (чуваць нейкі сьмех і шэпты).

Вучыцель: Ну ідзь Кондрацюк запіш на табліцы. Фэбра — по польску значы то само, цо по бялоруску—расца.

Кандрацюк: (запісвае на дошцы) Ferba—расца.

Вучыцель (ня гляцзючы на дошку): Ну, Калядко, пшэчытай.

Калядка: Фарба расьце. А я-ж казаў, пане вучыцель, што там расьце фарба.

Вучыцель (махнуўшы безнадзейна рукой). Ідзьце, дзеці, до дому. На дзісяй выстарчы.




**НЯБЫВАЛАЯ РАДАСЬЦЬ.**

**Беларус:** Ляці хутчэй, хутчэй, наш дарагі, доўга-чаканы адрыўны каляндар! Будзеш дарагім госьцем пад нашай сялянскай страхой і хоць арыштам і конфіскацыяй хацелі адабраць цябе ад нас,—усё-ж ты вырваўся на волю, каб служыць роднаму народу.

А хто ня будзе мець роднага беларускага каляндара,—ня варт быць сынам Беларусі!



**СІРАШНЫ СОН БЕЛАРУСКАГА ДЗІЦЯЦІ.**

**Дзіця праз сон, убачыўшы цень міністра асьветы Станіслава Грабскага:**

— Адчапіся ад мяне страшная мара. Ня вырвеш сваімі кіпцюрамі маей маладое душы. Я беларусам быў, беларусам ёсьць і беларусам буду, а твае языкоғыя ўставы і утраквістычныя (двуязычныя) школы зьнікнуць, як туман, разам з табою.

## Ілюстраваны гандлевы білянс Польшчы

Паводле слоў пана міністара гандлю.





— Магу падзяліцца з панамі радаснай навінай, што наш вываз раўняецца нашаму прывозу, аблічаючы на вартасьць грошаў.

„Mucha“

**Увага рэдакцыі:** Самі недаедаем, а вывозім сьвіней, авечак, кароў, а прывозім ласушкі для задаваленьня апэтыту яснавяльможных...




## Дай! Дай! Дай!..

**Беларус**: Штодзень працягваюцца да мяне дзесяткі рук з дамаганьнем: дай! дай! дай!...




## На!..

... а як я выставіў дамаганьне сваей родной школы, мне далі «кветку» п. Міністра Асьветы Станіслава Грабскага.

---

**Чаго шукаеш?**

Было гэта перад Вялікаднем. Ксёндз у касьцеле казаў навуку (ведама-ж па польску). Калі ён дагаварыўся да гэтакіх слоў:

— Магдалена, Магдалена! — чаго шукаеш?

— Я шукаю пана Закрэўскага, — адказала толькі што ўвайшоўшая шляхцянка, якая звалася Магдаленай.

*В. Гаротны.*



## Часткова мае слушнасьць.

— Чалавеча! А ты куды?

— Еду пахавацца жыўцом. Польскаму грамадзяніну ў цяперашніх часах найляпей на Повонзках **(Могільнік каля Варшавы, — увага рэдакцыі).**

**«Mucha».**

# ПА РЭВІЗЫІ!

**(Абразок з нядаўнай мінуўшчыны).**

Пан староста Ласуньскі выбіраецца на рэвізію па сваім павеце. З усіх старон шлюць яму грозныя рапарты, што па ўсім павеце неспакойна. там завялася нейкая дывэрсыйная банда, якая нападае на двары, там сяляне бунтуюцца,—ня хочуць падаткаў плаціць, там сяляне дамагаюцца сабе беларускае школы і гэтак далей і гэтак далей...

Страх, а ехаць трэба. У кішані ляжыць паперка ад ваяводы, каб выехаў на правінцыю і „асабістым аўтарытэтам“ устанавіў парадак. Добра пісаць „устанавіў парадак“—падумаў староста, — але як гэта зрабіць? Можа прамовіць да сялян, але ці будуць яны слухаць? Бандытаў тых і са сьвечкай нідзе ня знойдзеш, а што датычыцца школы беларускай, дык саўсім трудная рада: сяляне ўпёрліся на сваім і нічога іншага слухаць ня хочуць“.

— Трэба ехаць, а ўсё будзе там відаць!

— Томачка! можа кампоцік на дарогу зьясі?— запыталася жонка.

— Дай спакой са сваімі кампоцікамі, тут справы дзяржаўныя вялікай вагі, аж галава трашчыць,—адгрызся староста.

— Ну дык мо...а налесьнічэк?—прыставала жонк .

Ня слухаў ужо староста. Падышоў да жонкі, пацалаваў яе у пухленькія, як піражок вусны.

На дварэ ўжо ад самага раньня чакала фурманка запрэжаных парай адкормленых аўсом конікаў.

Нарэшце выехалі. Коні весела пакацілі брычку па падмерзшай дарозе.

На спатканьне старасьце пападалася шмат сялянскіх фурманак, сьпяшыўшых на кірмаш у бліжэйшае мястэчка. Як толькі прыбліжалася якая - колечы фурманка, наш староста інстынктыўна хватаўся за кішані, дзе на ўсякі прыпадак былі схаваны два туга набітыя рэвольвэры, а апрача таго фурман таксама меў рэгольвэр і кароткі вайсковы карабін. Усё гэта прызапасіў пан староста, якому здавалася, што падарожа праз палі і лясы Беларусі страшнейшае сваімі прыгодамі ад рожных сэнсацыйных падарожаў у краіне людаедаў, або ў мэксыканскіх лясох.

Дзівіўся вельмі наш староста і абураўся у глыбіні сваей душы, што праяждаючыя сяляне, бачучы залатыя і срэбныя паскі на яго шапцы, упрыгожанай вялізарным арлом, ніводзін яшчэ не зьняў пакорна перад ім шапкі, а ўсе моўчкі і неяк скоса паглядаючы на яго, абміналі стараставу фурманку.

„Ну ўсё-ж такі нічога ня варт гэтакі рэспубліканскі лад,“—падумаў староста. „Даўней бывала, за царскім рэжымам калі-б мужык ня зняў-бы мне шапкі, дык я-б яго засек бізуном да паўсьмерці і ўсё было-б у парадку, ніхто-б табе за гэта нічога не сказаў-бы, нічога ня зрабіў, — затое і парадак быў, а цяпер толькі закрані яго пальцам дык мужык ужо знае табе пасloў, суд, міністра, сойм. Удар яго толькі бізуном, дык розныя газэты ўраз распішуць аб гэтым на увесь сьвет, як-бы аб якім вялікім здарэньні.

Вось да чаго даходзіць няўдзячнасьць народу да „свайго начальства“, — думаў далей староста. Вось я еду, мерзну, трасуся ў брычцы, недаядаю, а ўсё думаю, як-бы дагадзіць народу, як-бы ашчасьлівіць яго, а ён табе нават і шапкі зьняць ня хоча. Быдлё, а ня людзі,—зласьліва плюнуў староста.

— Эгэ—гэ—гэ... на бок! — як камандзер на салдатаў, закрычаў фурман.

— Куды на бок?! Абмінай сам! пачуліся галасы.

Гэта ехаў абоз сялянскіх фурманак, цяжка наладаваных дрэвам.

— Абмінай сам, а то бізуном дастанеш,—злаваўся фурман.

— Што-ж ты сьляпы, ці што? Куды-ж мы абмінём з вазамі? Абмінай сам,—не вялікі пан!

— На бок, я табе кажу,—ня відзіш, хто едзе?

— Ды хоць-бы там сам цар ехаў, — дарога шырока абмінай і толькі! Каму лягчэй абмінуць, ці табе з брычкай, ці нам з вазамі?

— Хамы, прэч з дарогі!— закамандаваў староста і аднэй рукой схапіўся за кішэнь з рэвольварам.

— Ці чулі, браткі? — адазваліся сяляне.—Пойдзем, паглядзім, што гэта за „пан“ едзе, што гэтак лаяцца ўмее.

— Езус, Марыя! — дрыжачымі вуснамі прашаптаў староста, як сяляне зьбліжаліся да яго брычкі. „Вайцешка, не спрачайся з людзьмі!“—неяк ласкава адазваўся ён да фурмана. „Абмінай лепей, — паедзем!“

Брычка з грукатам панеслася далей, а сам староста глыбока задумаўся над тым, як зьмяніліся часы: як яшчэ нядаўна пакорны і загнаны сялянін—беларус зрабіўся грамадзянінам,—сьвядомым сваіх праву.

Наставіў староста пушысты каўнер свайго футра, схаваў у ім нос і больш не хацеў выглядаць на сьвет белы.

За паўгадзіны былі ўжо каля гміны.

— Мэльдуен, пане староста, што ўсё ў парадку: ніякіх прыпадкаў не было! — рапартаваў на ганку войт.

Памоцнік войта, пісар і пісарчукі паўставалі з крэслаў і доўга стаялі, як сьвечкі на від пана старасты.

— Сядайце!—закамандаваў староста і пачаў пераглядаць кніжкі.

— Скажыце, войт,—што вы робіце вось з гэтымі дэкларацыямі, што складаюць сяляне на беларускія школы?—запытаўся староста.

— Вось і я сам ня ведаю, што рабіць,—адказаў войт, як пачалі прыставаць сяляне, дык я пасьведчыў і аддаў ім.

— Дурань, асёл!—гнеўна закрычаў староста. — Разумееш ты, як будуць усюды беларускія школы, дык ні цябе, ні мяне, тут ня будзе,—усё беларусы забяруць у свае рукі.

— Але, але, пане староста, — я разумею. Яшчэ уставы да гміны не прышлі, а сяляне ўжо гэтыя ўставы ад а да ц ведаюць. Усе параграфы, усе пункты, як-бы якi адвакат выкладаюць.

— А скуль-жа яны ведаюць? — зьдзівіўся староста.

— Іхнія, значыцца, беларускія паслы часта прыежджаюць і аб'ясьняюць ім што і як.

— А паліцыя што сьпіць у вас ці што? Трэба пільнаваць, сачыць, сьлядзіць.

— А як-жа, пане староста, ходзіць, трасець, шукаець, але нідзе нічога ніякага. Людзі, як людзі, — гаруюць, працуюць, на падаткі хоць наракаюць, але пакуль што плацяць, так што нават няма за што прычапіцца. Толькі вось ім гэтай школы беларускай, як няведама чаго захацелася,—не адмовіць, не адраіць ім ніяк ня можна.

— Бачу я, што ты, войце, не энэргічны,—ня ўмееш, як з сялянамі паступіць. Пайду лепей на пастарунак паліцыі, дам загад каманданту, каб з кожным хто толькі будзе агітаваць за беларускую школу, хто будзе падпісваць, зьбіраць і падаваць дэкларацыі паступаў як з бальшавіком, шкодным дзяржаве.

Выйшаў староста з гміны, а войт пайшоў да кухні, дзе рабіліся праўдзівыя прыгатаваньні да рэвізіі. Ад самага раньня жанкі войта, пісара, і камэнданта бегалі, як ашалелыя па кухні, гатуючы розныя стравы і прыправы, як-бы ведаючы воўчы апэтыт пана старасты.

Стравы гэтыя рабіліся вельмі дзіўным прымітыўным спосабам.

— За мала перцу,—казала войціха і сыпала вялізарную прыгаршню яго ў саган.

— Не шкадуйце цыбулькі, часнаку, кропу, пятрушкі,—раіла каманданціха. Як я была кухаркай у паноў, дык яны гэта вельмі любілі,— казала яна і ад сябе дасыпала цэлую жменю таго і сяго.

— Трэба квасу, воцту, алейку мукі,—гэта муж вельмі любіць, — казала пісарыха і дадавала ўсё гэта да стравы.

На гадзіну другую быў абед гатоў і пададзены на стол, на якім красавалася цэлая батарэя бутэлек, прынесеных сюды рэстаўратарам, каб у прышласьці здабыць сабе моцнага абаронцу ад пратаколаў у асобе пана старасты.

Ужо добра сьцямнела, як пан стараста выбраўся ў паваротную дарогу. Хмель такі добра закруціў яму галаву, а ў яснавяльможным жываце падымалася цэлая рэвалюцыя. Усе гэтыя часнакі, пятрушкі ніяк не маглі пагадзіцца з сабой і паднялі, відаць, спрэчку, так што нейкія глухія стогны, енкі данасіліся з жывата.

— Што за халера?! Каб ён здох са сваім абедам! — вылаяўся стараста. Зьлез з возу і скрыўся ў прыдарожных кустох.

І гэтак усю дарогу.

Я. Накрэвіч.



## Адзін у плот, другі ў гарод.

На пагранічча каля Стоўпцаў прыслалі новую дывізыю пагранічных жаўнераў з так званага К. О. П. (корпус обороны пограніча).

За нестачай адпаведнай казармы разьмяшчаюць дывізыю ў вёсцы М. сярод «удзячнага» насяленьня.

Зразумела, што найперш трэба ўстроіць начальства. Для камандзера дывізыі выбралі найлепшую хату, але, ведама, й гэтая яму не спадабалася, — брудная. Але трудна, трэба пагадзіцца з лёсам.

Выдаецца загад «ордынансам» (па нашаму дзеншчыкам) неадкладна прывясьці хату ў адпаведны парадак: вымыць падлогу, сьцены, столь і. г. д.

Залёталі „ордынансы": хто па ваду, хто куды, а аднаму загадалі знайсьці ануч для мыцьця падлогі, якіх, відаць, польская інтэндантура на гэтую мэту ня выдаець, а гаспадыня, якой зрабілі такі гонар (памясьціўшы ў хаце камандзера, а гаспадарскую сямью загнаўшы ў хлеў) даць ануч ня хоча.

„Ордынанс" ўлятае ў суседнюю хату і зварачваючыся да бабы, якая стаіць ля парогу пры печы з чапялою просіць:

**Орд.:** Матка, дайце шматув!

**Баба:** (зьдзіўлена) Чаго?

**Орд.:** Шматув, матка, шматув!

**Баба:** Тпфу. Вось, бадзяка, каб ты прапаў, толькі ўляцеў ў хату на'т добры дзень не сказаў, а зараз дай яму шмат... а чаго шмат, то й не гавора. —

**Орд.:** Шматув, матка, розумеш, шматув до выцераня!

**Дзед:** (спускаючы ногі з палацяў) Вось дурніца, каб ты зга рэў, а йшчэ жаўнер завецца, кажы перш чаго табе трэба, а то шмат, шмат, а ліха яго ведае, чаго яму шмат трэба?!

**Орд.:** (Лётаючы па хаце і заз іраючы пад лавы) Шматув, ойцец, шматув до выцераня... (угледзеўшы анучу пад лаваю, кідаецца туды й выцягваючы паказвае) от, от, такіх шматув... до мыця „потулка" по вашэму, кажа дзлей, от, такіх, матка, мне тшэба..

**Дзед:** (сьмяючыся) А бадай ты спракудзіўся, вось, дурніца, ну й завала! дарос да таго, што ў жаўнеры забралі, а гаварыць па людзку ня ўмее. То-ж у нас кожнае дзіця малое ведае, што гэта ануча, а то лётае, як ашалелы й давай яму шмат... шмат, а чаго шмат?—скажы па людзку, то мо' баба там і дасьць табе кусок нейкае каравае ганучы.



## Пісар і мужык.

Пісар шоў ў ботах новых,
Аж тут лужа па дакозе,
Вось дзе гора і бяда:
Боты вымачыць шкада.

Тут мужык яму папаўся,
Шапку зняў і прывітаўся.
Й просіць пісар: „галубок,
Як дабрацца на той бок?"

Падышоў мужык да лужы,—
Дагадзіць ён быў дасужы,
Узяў пісара на плечы
Ад патугі толькі крэхча.

— „Дзякуй, мой ты галубок,
„За ту працу, мой браток,
„Я ніколі не забуду,
„Як ізноў служыць я буду"!

— „Хіба пан ужо ня служа?" —
Запытаў мужык дасужы.
— „Вось сягоньня ёсьць загад,
„Каб я выехаў назад"...

Як пачуў мужык навіну,
Кінуў пана ў лужу з сьпіны,
Сярод самай глыбіны
Між балотнай трасіны.

— „ Я пранёс цябе паўлужы,
„Бо ня знаў, што ты ня служыш,
„Як пачнеш ты ўзноў служыць,
„Дык прыду канчаць насіць.

П. Маслоўскі.

## Ваш абавязак!

Кожны сьвядомы беларус павінен дбаць аб тое, каб родная гумарыстычная часопісь „МАЛАНКА" як найшырэй пашыралася, а дзеля таго павінны Вы самі неадкладна падпісацца на „Маланку" і заахвоціць колькі сваіх суседзяў і знаёмых.

**Падпісная цана:** на год 8 зл., на паўгоду 4 зл., на 3 мес. 2 зл. і адзін м-ц 1 зл.

Адрэс: Вільня, Завальная, № 7, Рэдакцыя „МАЛАНКА".

## Да нашых чытачоў.

Дзеля зьменаў пэрсанальных у рэдакцыі нашай часопісі і пераняseньня друкаваньня да іншай друкарні „Маланка" значна спазьнілася, бо дужа часу было патрачана на дакананьне вымаганых фармальнасьцяў перад адпаведнымі ўладамі. Аднак „Маланка" будзе акуратна выхадзіць два разы ў месяц і чарговы нумар выйдзе 20-га гэтага лютага, а далей пунктуальна 1-га і 15-га кожнага м-ца.

17-га студня г. г. выслалі першы пробны нумар „Маланкі" ўсім падпішчыкам „Беларускае Нівы" і „Biełaruskaje Krynicy" і гэтакім чынам каля 3000 падпішчыкаў ужо пазнаёмілася з нашай часопісяй; ня глядзячы на гэта, штодзень паступае маса лістаў з просьбай прысլаць пробны нумар, што займае шмат часу і наводзіць нашу рэдакцыю на паважныя матэрыяльныя страты; дзеля таго рэдакцыя пастанавіла **болей пробных нумароў ня высылаць**, а хто хоча азнаёміцца з „Маланкай"—хай прышле ў пісьме паштовых марак на 45 гр., атрымае пробны нумар. Найлепей аднак прыслаць адразу падпісную плату на тры месяцы (усяго два злотых).

*Рэдакцыя.*




Нарэшце праз шэсьць гадоў браты з Усходняе Беларусі мелі магчымасьць прывітаць сваіх братоў — прадстаўнікоў з Заходняе Беларусі.

## НАША ПОШТА.

**В. Томашук.** Танная прадажа кніжак з дн. 10 студня г. г. кончылася. Кніжкі прадаюцца па нармальнай цане.

**В. Бабіцкаму.** „Маланку" высылаем. Чакаем ад Вас падпіснай платы.

**К. Рагойша.** Пробны № 2 „Маланкі" высылаем. Падпісння цана на год 8 зл.; на паўгоду 4 зл. і на тры м—цы 2 зл. Чакаем падпіскі.

**Саўка Кароль.** Прысланыя жарты не падходзяць. „Маланку" без падпіскі высылаць ня будзем. Калі пршлеце што небудзь сьмешнага і цікавага, зьмесьцім у „Маланцы". Не прысылайце болей даплатных лістоў, бо прыймаць ня будзем.

**Д. Нечай.** Падпіску атрымалі. Дзякуем за добрыя пажаданьні, але верш ваш ня зьмесьцім, — слабаваты.

**Васіль Гаротны.** У адным са сваіх вершаў Вы пішыце:

„Люблю, дзевачкі, я вас, —

„Я-б здаецца з вамі спаў.. О—го—го—го! — За вялікія жарты! Ніводзін з Вашых вершаў не падходзіць да „Маланкі". Раім Вам болей чытаць беларускія паэтыцкія творы і лепей працаваць над сваімі вершамі.

**Язэп Гіс.** Вашы рысункі слабыя, а вершы яшчэ горшыя, дзеля таго і зьмесьціць іх у „Маланцы" ня можам. Без падпіскі болей высылаць Вам „Маланку" ня будзем.

**А. П.** Прысланыя Вамі жарты — тлумачэньне са старых расейскіх часопісаў. Прысылайце свае ўласныя творы, або запісывайце шчыра народныя жарты. Пры ўсялякай корэспондэнцыі належыць падаваць свой адрэс для ведама рэдакцыі.

**Янка Сашіш.** Пісаць і прысылаць коррэспондэнцыі да „Маланкі" для кожнага дазволена, а дзеля таго ня бойцеся, што за гэта „пападзеце ў польскую турму". Прысланыя Вамі жарты ня змесьцім. Прысылайце, што маеце цікавага.

**А. Сеўба.** Рысунак Ваш слабы, а жарт цынічны і да „Маланкі" не падходзяць. Пішыце болей, калі будзе што цікавае, — зьмесьцім.

**Я. Галубок.** Вельмі рады што „Маланка" Вам спадабалася. Ваш верш не зьмяшчаем, бо яшчэ Камісар Ураду прычэпіцца.

**„Дармаграй".** Верш Ваш добры, але не актуальны. „Грамадзкага Голасу" ўжо няма і ня варта аб ім успамінаць,—калом яму зямля!

Рэдактар-выдавец **Янка Касяк**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня